У НУМАРЫ




# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 23 (745) ГОД XV БЕЛАСТОК 7 ЧЭРВЕНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.


Сустрэчы з „Нівай"

## АДЗІН ДЗЕНЬ У КЛЕЙНІКАХ

Перада мной васількoвае поле. 260 пар сініх вачэй у чаканні. Гляджу на іх. На шырокім школьным калідоры ясна і ўрачыста. Здаецца, расплываецца чалавек ў гэтым васільковым моры, створаным сінімі дзіцячымі вачыма. Уверсе летні зефір павявае, гуляе з калоссямі, а тут пахнуць востра васількі: 260 пар сініх, уважлівых, інтэлігентных вачэй чакае, не змаргне. Ім нават цікава, што ты губішся. Яны чакаюць, што скажаш, што новага скажаш.

Побач за сталом усе настаўнікі гэтай люднай клейніцкай школы: злева з лёгка пахіленай галавой кіраўнік Эдвард Лясота, а потым настаўнікі: Ольга Лясота, (беларускай мовы ў малодшых класах), Вера Краўчук (беларускай мовы ў старэйшых класах), Аляксандр Закройшчык (матэматыкі і фізікі), Генрыка Пракапюк (біялогіі і хіміі), Ніна Внучко (польскай мовы), Юзэфа Касцюк (пачатковага навучання), Станіслаў Касцюк (матэматыкі і фізікі), Ірэна Сачко (маладая настаўніца СПР-у).

Памалу раблюся смялейшай у гэтым настаўніцкім выпрабаваным кругу. Хочацца, як яны, гаварыць з дзяцьмі добра і цікава. Кажу пару слоў пра «Ніву», «Зорку», сябе, сваю працу, працу сябroў. Потым ужо вядуць яны — клейніцкія дзеці. Вядуць у свой год 2000-ны. Рысуем, напрыклад, разам візію вялікіх Кленік у той 2000-чны год.

Клейніцкія дзеці з вачамі, як васільковае поле, аказаліся найбольш рэалістычнымі фантастамі. Ім смела можна паверыць, што зацвіце клейніцкая раўніна найбагацейшым плёнам іх працы. А пакуль яны — вучацца, вучацца і яшчэ раз вучацца.

Мой дзень сустрэчы з клейніцкай школай, яе дзяцьмі і яе настаўнікамі запісаўся ў памяці маёй, як найсімпатычнейшае перажыванне.

*

У грамадскай радзе ў кабінеце старшыні Сяргея Каліноўскага, родам з Курашава, сабраліся працаўнікі грамадскай рады: сакратар грамадскай рады, 10 год ужо тут працуе — Марыя Асташэўская, солтыс Клейнік I (бо вялікія Клейнікі маюць двух солтысаў) Васіль Купрыяновіч, с. Паўла. Гэты малады загарэлы ўжо на ветры мужчына, расказваюць у грамадскай радзе, яшчэ не жанаты, і, вядома, пытанне стаіць, як ажаніць солтыса. А солтыс, Васіль Купрыяновіч, нястомны грамадскі дзеяч, разумее, што жонка магла б прыкаваць яго да хаты, дык... не было б тады часу працаваць.

Так сабе разважаем, гаворым пра розныя справы: у Клейніках будуецца фабрыка, якая будзе сушыць зялёнку і бульбу. Расказваюць мне пра Клейнікі, што паасобныя часткі вялікай вёскі завуцца: Канец (ад Нарвы), Загадзь (ад Бельска), а цэнтр Клейнік — то Клябаншчына. Тут змяшчаецца грамадская рада, школа, клуб, царква, каля якой яшчэ дагэтуль стаіць невысокі пастумент, на якім калісьці, праўдападобна, стаяў помнік цара-асвабадзіцеля, што зняў паншчыну. Рэвалюцыйныя парывы знялі потым цара-асвабадзіцеля з п'едастала і нічога ўжо больш цікавага пра яго не можна сказаць. Частка старадаўняй гісторыі вёскі захавана ў назве Загадзь, якая абазначае гразкае, недаступнае, балоцістае месца.

Працяг на стар. 4



Белавежа запрашае. Фота Цаф — Сянько.

У бюро валілаўскага ПГР-у зайшоў пажылы чалавек. Ён тут, бадай, прадстаўнік самага старэйшага пакалення рабочых.

— Што рабіць, брыгадзір? — запытаў пасля прывітання. На яго твары, парэзаным маршчынамі, як барознамі, малявалася турбота. — Электрычнасці няма.

— Сам ведаю! — не зусім ветліва адказаў брыгадзір, Станіслаў Буцько і, паглядзеўшы на гадзіннік, дадаў: — «Беластоцкая газета» падае, што ў чатыры пасля абеда падключаць.

— Але цяляты піць хочуць, — гаварыў рабочы. — Мычаць так журботна, што сэрца баліць, а вядром я не змагу напаіць 150 цялят.

— Я ж вам, Маліноўскі, не гавару, каб вы паілі вядром, — сказаў брыгадзір.

— А можа бы бочкавозам, — запрапанаваў сакратар партыйнай пэгээраўскай арганізацыі Мікалай Шырынга.

Звычайная гаспадарская размова. Для мяне выявіла яна прынамсі дзве істотныя справы. Я, як і многія іншыя грамадзяне нашай краіны, аставаўся пад уражаннем ненайлепшых меркаванняў аб ПГР-аўскай гаспадарцы. У гэтых меркаваннях не аставалася месца для турбот за агульнае, пэгээраўскае, значыць дзяржаўнае, «казённае» дабро.

Калі ў Гарадку, у грамадскай радзе, хвалілі дырэктара валілаўскага ПГР-у Андрэя Крычку, што, моў, дбае пра сваю гаспадарку, што не мае затрат, што стараецца рабіць усё як след і ўпору — дык не вельмі хацелася мне верыць. Ат, думаў, урадніцкая салідарнасць.

А тут нават дзядзька Маліноўскі — звычайны, радавы ПГР-аўскі рабочы — турбуецца, як за сваё, што не можа напаіць «казённых» цялят, бо не працуе электрычная вадапомпа...

Менавіта — вадапомпа. Гэта другая справа. Яна паказвае, як далёка гаспадарка ў ПГР-ы звязалася зараз з сучаснай тэхнікай, як залежыць ад гэтай тэхнікі.

Валілаўскі ПГР мае 150 га ворнай зямлі і 250 га сенажацей.

— Ці патрабуеце людзей да працы? — пытаю палявога брыгадзіра Станіслава Буцько.

— Не, — рашуча сцвярджае ён, — мы маем 7 трактарыстаў і 2 рабочых у палявой брыгадзе. І гэтага нам зусім дастаткова, каб справіцца з апрацоўкай нашай зямлі. Толькі на некалькі дзён гарачай палявой працы прыходзіцца нам наняць крыху людзей. Стараемся выручацца машынамі. Вось сёння паслаў я ў поле трактарную садзілку і пры яе дапамозе адзін чалавек, трактарыст, пасадзіў за адзін дзень столькі бульбы, што ўручную нават 10 рабочых не змагло б пасадзіць. Да 20-га мая мы справіліся з усімі вясеннімі працамі. Дырэктар нават пайшоў у водпуск, і можам адпусціць кожнага іншага рабочага таксама ў водпуск, каб толькі хацеў ісці. Мы цяпер не маем што рабіць. Паедзем хіба садзіць лес, бо трэба дапамагчы жэдзнеўскаму надлясніцтву.

## ПЭГЭЭРАЎСКАЕ ЖЫЦЦЁ

Дык яшчэ адзін міф расплываецца пра пэгээраўскае жыццё. Здаецца мне, што ўжо нельга палохаць дзяцей: «Калі не будзеш вучыцца, дык пойдзеш у ПГР каровы пасвіць».

— Мы сваё пасбішча дакладна распланавалі і падзялілі на многія кватэры. Каровы пасуцца кожны дзень у іншай кватэры, а пільнуе іх электрычны пастух.

Гэта словы пэгээраўскага заатэхніка, Людмілы Казберук. У валілаўскім ПГР-ы з'яўляецца яна прадстаўніком самага малодшага пакалення працаўнікоў. Два гады таму назад закончыла Дайлідскі сельскагаспадарчы тэхнікум і пасля стажыроўкі распачала працу ў Валілах. Гаворыць, што не можа сабе ўявіць іншага прафесіянальнага занятку, што не хацела б працаваць у горадзе.

— Тут мне добра, — гаворыць, — і няма асноў, каб не верыць у шчырасць гэтых слоў. Дастаткова сказаць, што маладая дзяўчына зараз пасля школы зарабляе ў ПГР-ы больш-менш 2000 зл., а на дадатак мае бясплатны асобны пакойчык.

Калі пакідаў я валілаўскі ПГР, з-за шэрай хмары выплыла сонца і яго чырвоныя, вячэрнія праменні замільгацелі ў вадзе, якая прасторным возерам разлілася між лесам і полем. Гэта ПГР-аўскія рыбаносныя сажалкі, у якіх вырошчваюць карпаў. Пра гэта інфармуе блакітная табліца, якая вісіць на дрэве, растучым у 10 метрах ад берагу ў сажалцы.

М. Нурэцкі

## БГКТ ХРОНІКА

■ Як мы ўжо інфармавалі, Беларускае таварыства звярнулася да ўстаноў, прадпрыемстваў, арганізацый і ўсяго насельніцтва ў справе зборкі грошай на пабудову Беларускага музея ў Белавежы. На заклік ГП БГКТ ужо адгукаюцца паасобныя ўстановы. ГС у Дуброве Беластоцкай пераказаў 500 зл., Рамесная ізба ў Беластоку — 500 зл., Падляшскае прадпрыемства будаўлянай керамікі ў Беластоку — 100 зл.

■ 17-га мая сямяціцкі аддзел БГКТ арганізаваў конкурс на беларускую песню. У ім узялі ўдзел школьнікі (конкурс ад 12 год) з Мікуліч, Мілейчыц, Рагачоў і Семіхочаў. Першае месца атрымала трыё з Мікуліч, два другіх месцы — дуэты з Мілейчыц і Рагачоў, а на трэцяе месца заквапіфікаваліся салісты з Семіхоч. У Беласток на элімінацыі (7.VI.) паедуць трыё з Мікуліч і дуэт з Мілейчыц.

■ 24 мая ў памяшканні ГП у Беластоку адбыўся агляд найлепшых драмгурткоў паасобных аддзелаў. На першае месца заквапіфікаваліся самадзейнікі з Паўлаў Бельскага павета, якія выступілі з п'есай Тадэвуша Папера «Аповесць аб загінуўшым салдаце». П'есу на беларускую мову пераклала мастацкі кіраўнік драмгуртка мясцовая настаўніца Валянціна Амельянюк.

■ Гданьскі аддзел БГКТ 24 мая арганізаваў урачысты вечар, прысвечаны 25-ай гадавіне перамогі над гітлераўскай Германіяй.

■ 16 і 17 мая гайнаўскі аддзел БГКТ арганізаваў аўтарскія сустрэчы з Алесем Барскім і Сакратам Яновічам у школах і клубах у Махнатым, Моры, Чаромсе — вёсцы, Чаромсе — асадзе, Карыцісках і Старым Беразове. Прынялі яны таксама ўдзел ва ўрачыстасцях дня селяніна ў Свінароях, дзе на кніжным кірмашы аўтары складалі аўтографы на сваіх кніжках.

■ Для сваіх членаў і сімпатыкаў варшаўскі аддзел БГКТ арганізаваў 16 і 17 мая экскурсію параходам па Вісле.

■ Гайнаўскі аддзел падрыхтоўваецца да фестывалю, які адбудзецца 28 чэрвеня ў Палічнай. (мх)



# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

## СВЕТ



## БССР



## ПОЛЬШЧА



## ВАЯВОДСТВА

### З'ЕЗД ЛЕНІНСКАГА КАМСАМОЛА

У Маскве, у Крамлёўскім Палацы з'ездаў, адбыўся VII з'езд Усесаюзнага Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі. ВЛКСМ згуртоўвае ў сваіх радах 27 мільёнаў членаў, а 4.695 лепшых з іх прадстаўлялі арганізацыю на з'ездзе.

У з'ездзе прымалі ўдзел кіраўнікі партыі і ўрада з Леанідам Брэжневым, Аляксеем Касыгіным і Мікалаем Падгорным на чале, а таксама прадстаўнікі 98 камуністычных саюзаў моладзі, дэмакратычных і сацыялістычных маладзёжных арганізацый з 84 краін свету.

З прамоваю на з'ездзе выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. Брэжнеў. Гаворачы аб заданнях маладога пакалення, Л. Брэжнеў сказаў: «Важным полем дзейнасці маладых энтузіястаў навукова-тэхнічнага прагрэсу з'яўляецца наша сельская гаспадарка. Само сабой зразумела, што вырашэнне вялікіх задач, пастаўленых партыяй перад сельскай гаспадаркай, пад сілу толькі людзям тэхнічна пісьменным, кваліфікаваным, якія любяць зямлю і працу на зямлі. І мы з задавальненнем адзначаем, што камсамол актыўна адгукнуўся на заклік партыі дапамагчы сельскай моладзі авалодаць тэхнічнымі прафесіямі, у якіх такую вострую патрэбу мае наша вёска».

«Камсамол, — сцвердзіў далей Генеральны сакратар. — заўсёды даказваў здольнасць сканцэнтраваць намаганні моладзі на галоўных напрамках. Мы высока цэнім шэфства камсамола над ключавымі аб'ектамі нашага прамысловага будаўніцтва. За гэта камсамолу хвала і гонар.

Трэба, аднак, каб моладзь працавала з энтузіязмам усюды, ва ўсіх жыццёва важных галінах нашай велізарнай сацыялістычнай гаспадаркі. Звычайна пра людзей, якія будуюць заводы, здабываюць вугаль і нафту, пракладваюць дарогі, вырабляюць сучасныя машыны і абсталяванне, мы гаворым, што яны знаходзяцца на пярэднім краі будаўніцтва камунізма. Але не менш важная для грамадства праца тых, хто будуе жыллё, выпускае тавары шырокага ўжытку, працуе ў сістэме бытавога абслугоўвання. А што датычыць рамантыкі, то яна ёсць ва ўсякай важнай, патрэбнай народу справе. Яна заўсёды з тых, хто здольны па-новаму глянуць на справу, прапанаваць новае, лепшае рашэнне. Адным словам, у полі зроку камсамольскіх арганізацый павінен знаходзіцца ўвесь спектр задач, якія выстаўляе жыццё, — і яркіх, уражлівых, і будзённых, такіх, што з першага позірку могуць здацца другараднымі».

Для фарміравання сярод моладзі пачуццяў братэрскай дружбы і інтэрнацыяналістычнага адзінства прынята арганізаваць ў 1972 годзе Усесаюзны фестываль, прысвечаны 50-годдзю стварэння СССР.

З'езд выбраў Цэнтральны камітэт. Першым сакратаром ЦК выбралі *Яўгенія Цяжальнікава*, які знаходзіўся на гэтай пасадзе ад 1968 года.

### ПАСЯДЖЭННЕ

Адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, на якім былі заслуханы даклады старшынь выканаўчых камітэтаў Жлобінскага раённага і Жлобінскага гарадскога Саветаў дэпутатаў працоўных. Прыняты адпаведныя пастановы. Разгледжана таксама пытанне аб стане работы ў Маладзечанскім раёне па павышэнню юрыдычных ведаў дэпутатаў Саветаў, работнікаў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый.

### СУСТРЭЧА

У ЦК КП Беларусі адбылася сустрэча з кіраўнікамі дэлегацый саюзных рэспублік і сацыялістычных краін — удзельнікамі IV Усесаюзнага кінафестывалю, які адбываецца ў Мінску. У сустрэчы прынялі ўдзел першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі П. Машэраў, Старшыня Савета Міністраў Беларускай ССР Ц. Кісялёў і іншыя кіраўнічыя асабістасці.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ

Адбылася рэспубліканская студэнцкая канферэнцыя па праблемах грамадскіх навук, гісторыі камсамола і міжнароднага маладзёжнага руху.

### ДЛЯ МІЖНАРОДНЫХ

Мінскі аўтамабільны завод будзе пастаўляць машыны для міжнародных перавозак. У Мінск вярнуліся два аўтапаязды, якія праходзілі ацэнкавыя выпрабаванні на дарогах Саюза ССР, Польшчы, Венгрыі, Нямеччыны, Італіі, Францыі.

Гэта першае савецкае прадпрыемства, якое будзе спецыялізавацца ў гэтакай прадукцыі.

### ДЗІЦЯЧЫЯ ДАКТАРЫ

У памяшканні тэатра імя Янкі Купалы адбыўся другі з'езд дзіцячых урачоў Беларусі. У рабоце з'езду прыняў удзел намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР С. Кіпкін.

### ПАМЯЦІ ГЛЕБКІ

З мэтай увекавечання памяці беларускага паэта Пятра Глебкі Савет Міністраў БССР пастанавіў назваць яго імем Літвінскую сярэднюю агульнаадукацыйную працоўную палітэхнічную школу Уздзенскага раёна.

### ДРУЖБЫ

Мінск наведала дэлегацыя Усенароднага камітэта балгара-савецкай дружбы.

### СТОТЫСЯЧНАЯ

На магілёўскім металургічным заводзе імя Мяснікова выпушчана стотысячная тона ацынкаванай сталі.

### ВЕЧАР

Міністэрства культуры БССР і Камісія па справах ЮНЕСКА правялі ў Доме работнікаў мастацтваў вечар, прысвечаны жыццю і творчасці вялікага італьянскага мастака і вучонага Леанарда да Вінчы.

### «МЕЛОДЫЯ»

Усесаюзная фірма «Мелодыя» выпусціла новую пласцінку з запісамі беларускай музыкі ў выкананні Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра Беларускай ССР.

«Мелодыя» выпусціла незвычайны камплект з дзвюх частак па пяць пласцінак — гэта «Фонахрэстаматыя па роднай літаратуры для пятага класа беларускай школы». (ся)

### ТППР

У будынку Драматычнага тэатра ў Варшаве адбыўся VIII Агульнапольскі з'езд Таварыства польска-савецкай дружбы (ТППР), у якім прыняло ўдзел 450 дэлегатаў — прадстаўнікоў 55 тысяч гурткоў Таварыства. У працы з'езда прыняла ўдзел дэлегацыя Цэнтральнага праўлення Таварыства савецка-польскай дружбы на чале з яго старшынёю — старшынёю Савета Саюза Вярхоўнага Савета СССР Іванам Спірыдонавым.

З'езд прыняў пастанову, якая акрэслівае найважнейшыя напрамкі дзейнасці Таварыства ў наступным перыядзе: далейшае інфармаванне грамадства аб гісторыі і сучасных дасягненнях Савецкага Саюза, аб карысці польска-савецкай дружбы і супрацоўніцтва; барацьба з варожай прапагандай, якая імкнецца аслабіць братэрскія вузы, якія звязваюць Польшчу і Савецкі Саюз. Адным з пунктаў пастановы з'яўляецца пашырэнне дзейнасці ТППР на вясковае асяроддзе.

З'езд выбраў новыя ўлады Таварыства. Старшынёй Галоўнага праўлення зноў быў выбраны Чэслаў Выцэх.

### ВЕЛАГОНКА

У чарговай XXIII велагонцы міру польскія спартсмены перамаглі ва ўсіх класіфікацыях. Індывідуальна велагонку выйграў Шуркоўскі. У зборнай класіфікацыі за польскай камандай ідуць каманды Чэхаславакіі і Савецкага Саюза.

### 2,5 МІНУТЫ

У сувязі з інтэнсіфікацыяй гаспадаркі павялічыліся і ўскладніліся абавязкі нашых аддзелаў пасрэдніцтва працы. Яны павінны рацыянальна гаспадарыць рабочай сілай. Аднак сапраўдныя магчымасці аддзелаў пасрэдніцтва працы невялікія, бо, як падлічана, на абслугоўванне аднаго наведвальніка ў аддзелах прыпадае ў сярэднім 2,5 мінуты.

### ХЛЕБНЫ КВАС

Лодзінская прамысловасць арганізавала (невялікі пакуль што) выраб хлебнага квасу.

### СЕСІЯ

Сесія Агульнага зграмаджэння Польскай акадэміі навук дыскутавала аб заданнях польскай навукі ў сувязі з новай гаспадарчай стратэгіяй. Шэраг дыскутантаў напомніла аб клопатах нашых даследчыкаў і выказала надзею, што ў будучыні сітуацыя палепшыцца. Прысутныя даведаліся аб далейшай канцэнтрацыі даследчых інстытутаў і навуковых доследаў.

### ТЭЛІГА

Памёр наш вялікі адзінокі мараплавец Леанід Тэліга (53 гады), які нядаўна зрабіў кругасветнае падарожжа на яхце. Быў пілотам, дыпламатам, журналістам, пісьменнікам і перш за ўсё — мараплаўцам.

### ВАЛЫНАЎ

У Польшчы пабываў у гасцях касманаўт палкоўнік Б. Валынаў, капітан касмічнага карабля Саюз — 5. Сустрэўся ён з прадстаўнікамі друку, радыё і тэлевізіі ў варшаўскім клубе журналіста. (п)

### АБМЯРКОЎКА ПАСТАНОЎ V ПЛЕНУМА

У апошнія дні мая ў Ваяводскім камітэце ПАРП адбылася нарада ваяводскага актыву і сакратароў ПК ПАРП, на якой абмяркоўваліся заданні партыйнай арганізацыі і дзяржаўнай адміністрацыі нашага ваяводства ў выкананні пастаноў V Пленума ЦК ПАРП. Вёў нараду I сакратар ВК А. Лашэвіч.

Пастановам V Пленума ЦК ПАРП было прысвечана і спатканне кіраўнікоў Галоўнай тэхнічнай арганізацыі (НОТ), Польскага эканамічнага таварыства, Таварыства навуковай арганізацыі і кіраўніцтва і Аб'яднання польскіх бухгалтараў. Старшынёю сходу быў сакратар ВК ПАРП С. Рубчэўскі.

### СУВЯЗЬ ВСІ З ПРАМЫСЛОВАСЦЮ

У Вышэйшай інжынерскай школе адбылася сустрэча навуковых працаўнікоў школы з дырэктарамі і тэхнічным кіраўніцтвам беластоцкіх прадпрыемстваў, прысвечанае супрацоўніцтву прамысловасці з вучонымі. Рэктар дац. д-р В. Хомчык пазнаёміў прысутных з навуковай працай, якая вядзецца ў школе для надзённых патрэб прамысловасці. Рэктар падкрэсліў магчымасць увядзення ў практыку канцэпцыі стварэння школьна-прамысловых пляцовак, якія ўжо існуюць у іншых ваяводствах, а таксама павелічэння колькасці дыпломных работ, звязаных з праблемамі прамысловых прадпрыемстваў.

Прапановы рэктара і дыскутантаў будуць абмяркоўвацца ва ўсіх фабрычных арганізацыях НОТ.

### СУСТРЭЧА З ПАЖАРНІКАМІ

26 мая, з нагоды Дзён супрацьпажарнай аховы, у будынку Акруговага праўлення Саюза добраахвотнай супрацьпажарнай аховы адбылася сустрэча членаў добраахвотных супрацьпажарных каманд з I сакратаром ВК партыі А. Лашэвічам.

З дзейнасцю добраахвотных супрацьпажарных каманд пазнаёміў прысутных прэзас Акруговага праўлення ЗОСП, намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Е. Зентара. Ён падкрэсліў, што вялікую дапамогу добраахвотныя супрацьпажарныя каманды атрымліваюць ад партыйных устаноў і прэзідыумаў рад нарадовых. Прысутны быў таксама галоўны інспектар Галоўнага праўлення ЗОСП З. Радванскі. Ён звярнуў увагу на ініцыятыўнасць беластоцкіх пажарнікаў, хуткі рост радоў добраахвотнікаў і падзякаваў тав. А. Лашэвічу за асабістае зацікаўленне праблемамі добраахвотных супрацьпажарных каманд.

### ГАЙНАЎЧАНЕ — ПЕРШЫЯ

У мінулым тыдні адбылося падсумаванне спаборніцтва ў працы культурна-асветных пляцовак. Сярод пляцовак другой катэгорыі I месца заваяваў прыфабрычны дом культуры «Лясні́к» з Гайнаўкі. II месца падзялілі паміж сабой павятовыя дамы культуры з Кольна і Саколкі, а III месца — дом культуры «Гурнік» з Гайнаўкі. Дом культуры з Гарадка заняў II месца сярод пляцовак сваёй катэгорыі. (яч)




**Niedziela 7.VI.**

8.00 Program dnia; 8.05 TV Kurs Rolniczy: „Mechanizacja zbioru zbóż"; 8.40 „Przypominamy, radzimy"; 8.55 Dla młodych widzów: „Klub Pancernych"; 9.25 „Bez rodziny" — film fab. franc.; 11.00 „Musica Antiqua" (Praha); 11.30 „Zainteresowania nastolatków" — film węg.; 12.00 Dziennik; 12.20 Motocrossowe Mistrzostwa Świata w klasie 250 cm; 13.10 „Bawcie się z nami"; 13.55 „Przemiany"; 14.25 Dla dzieci: L. J. Kern — „Ferdynand Wspaniały"; 15.25 „Sezamie otwórz się" („W starym kinie"); 16.15 Finał Olimpiady Wiedzy Społeczno-Politycznej; 17.05 Teatr TV na Świecie: I. Turgieniew — „Pierwsza miłość" — widowisko TV Radzieckiej; 18.20 PKF; 18.30 „O Japonii" — film; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Bokser" — film fab. pol.; 21.40 „Sopot 69" — film TVP; 22.10 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 8.VI.**

14.25 i 22.30 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec"; 17.35 „Echo stadionu"; 17.55 „W kraju muzyki i pieśni" — film Tele-Aru; 18.10 „Kino Filmów Animowanych"; 18.40 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.10 Teatr TV: J. Abramow — „Żaglowce, białe żaglowce"; 21.10 „Lektury współczesne"; 21.20 „Gramy o telewizor" — teleturniej; 21.40 „Po prostu Libia" — rep. film.; 22.05 Dziennik.

**Wtorek 9.VI.**

7.35 „Pustka" — film fab. węg.; 9.00 Dla szkół: (kl. I i II lic.) Język polski — Z. Skowroński „Mistrz"; 9.35 Przerwa; 10.00 Dla szkół: (kl. VI) „W porcie szczecińskim"; 10.20 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — „O miejsce wśród ludzi" (Pierwsze sympatie); 11.25 Przerwa; 12.00 „Wybieramy zawód"; 12.30 Przerwa; 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Wykonywanie podorywek i przygotowanie gleby do siewu"; 13.15 Przerwa; 14.25 i 22.25 Politechnika TV I roku. Matematyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Telewizyjny Ekran Młodych; 18.45 „Rzecz z ogłoszenia"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.10 „Pustka" — film fab. węg.; 21.30 „Powrót wystawy" („Profile kultury"); 22.05 Dziennik.

**Środa 10.VI.**

9.05 „Geminus" — film wł.; 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Obrońcy polskości"; 10.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka. „Rozszerzalność cieplna ciał"; 12.25 Przerwa; 14.25 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla dzieci: „Kino Bolka i Lolka"; 17.20 TV Kurier Warszawski; 17.35 „Reklama w piosence"; 17.50 „Kryteria nowoczesności"; 18.15 „Północne etiudy" — film radz.; 18.45 „Spacery warszawskie"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.10 „Geminus" — film wł.; 21.00 „Światowid"; 21.30 PKF; 21.40 „Wiosna w Szczecinie" — program muzyczny.

**Czwartek 11.VI.**

8.15 Matematyka w szkole: „Wprowadzenie w rachunek prawdopodobieństwa w ujęciu szkolnym", cz. II i III; 9.15 Przerwa; 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Od postanowień poczdamskich do Układu Warszawskiego"; 10.25 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „W XVIII-wiecznej fabryce"; 11.25 Przerwa; 14.25 i 22.45 Politechnika TV I roku. Fizyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem"; 17.55 TV Kurier Białostocki; 18.10 „Kontrola"; 18.40 „Kontrasty i nastroje" (III program); 19.15 „Przypominamy, radzimy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.10 „Gideon ze Scotland Yardu" — film fab. ang.; 21.40 „Refleksje"; 22.10 Dziennik.

**Piątek 12.VI.**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zajęcia techniczne — „Robot kuchenny"; 10.25 „Gideon ze Scotland Yardu" — film fab. ang.; 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie plastyczne — „Architektura współczesna"; 12.25 Przerwa; 14.25 i 23.00 Politechnika TV I roku. Rysunek techniczny; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: „Szkoła Jungów Latającego Holendra". „Z przygodą na ty" — film; 17.50 TV Kurier Mazowiecki; 18.05 „Nie tylko dla pań"; 18.25 „Za kierownicą"; 18.55 „Grają orkiestry dęte"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Nim nadejdzie świt" — film TVP („Podziemny front"); 20.30 „Kraj"; 21.10 Teatr TV: J. Przeździecki — „Garść piasku"; 22.40 Dziennik.

**Sobota 13.VI.**

10.00 „Dziewczyna w hotelu" — film fab. USA; 11.30 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Ochrona zwierząt w Polsce"; 12.25 Przerwa; 14.25 TV Kurs Rolniczy: „Pytania i odpowiedzi"; 15.00 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 15.20 Program tygodnia; 15.30 Przerwa; 16.20 Program dnia; 16.25 „Oferty"; 16.40 Dziennik; 17.00 Międzynarodowe zawody jeździeckie — konkurs o Puchar Narodów; 18.30 „Tele-Echo"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.05 „Brytasławska lira"; 21.30 Dziennik; 22.00 „Dziewczyna w hotelu" — film fab. USA; 23.30 „Trochę Paryża, trochę tańca".




**Piątek, 5 czerwca**

15.00 Program dnia; 15.05 Nowiny; 15.15 „Maturzysta-70"; 15.40 Twórcy ludowi; 16.10 O pracy zakładów krawieckich; 16.40 „Panorama nowin"; 17.00 Film fab.; 18.30 „Czas"; 19.15 TV teatr miniatur; 20.15 TV film fab.; 21.00 Koncert; 22.00 Nowiny.

**Sobota, 6 czerwca**

8.00 Program rozrywkowy; 8.30 Przegląd międzynarodowy; 8.50 Szkatułka muzyczna; 9.00 „Leninowskim szlakiem"; 9.25 Film animowany dla dzieci; 9.45 Program muzyczny; 10.15 „Ziemia i ludzie"; 10.45 Przed wyborami; 11.00 Spektakl TV; 12.20 Nowiny; 12.30 Uniwersytet TV; 13.15 Film animowany dla dzieci; 13.30 Film fab.; 15.00 Koncert; 16.00 Nowiny; 16.05 „Kronika półwiecza. Rok 1938"; 17.00 Spektakl TV; 18.25 „Czas"; 19.00 Koncert estradowy; 19.30 „Nasi kandydaci"; 19.50 Film fab.

**Niedziela, 7 czerwca**

8.00 „Kiosk muzyczny"; 8.30 „Białe i czarne"; 8.50 „TV punkt agitacyjny"; 9.15 Spektakl dla dzieci; 9.40 Film fab.; 10.50 Nowiny; 11.05 „Karelia"; 11.45 Dla dzieci; 12.15 Film TV; 13.00 „Pracownikom wsi"; 13.30 Mistrzostwa świata w piłce nożnej. ZSRR — Belgia; 15.00 „Klub filmowy"; 16.00 Nowiny; 16.05 Koncert estradowy; 16.45 „Siedem dni"; 17.25 Film fab.; 18.50 Mistrzostwa świata w piłce nożnej. Brazylia — Anglia; 20.45 „Karuzela"; 21.30 Nowiny.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 138

## ● СУД ●

Нeяк сустрэлася Мальвіна са сваёю сяброўкаю Насткай. Павітанням не было канца, а навін? На валовую шкуру не спішаш.

— Чула ты, мая ты даражэнькая, гэтая паскудніца, што ў школе вучыць, зноў нейкага на нач прыводзіла. Амаль кожную ноч нейкі хабаль начуе. Сораму не мае, людзей ды бога не баіцца, завалока абрыдлая.

— I ты не ведаеш, што рабіць? Памялом халеру, гаўном абмазаць, у поле вывесці ды сабакамі пацкаваць. Ну і людзі, што такую на кватэры трымаюць.

I гэтак плыло жыццё, бы тая рэчка, несучы на сваіх хвалях усякую ўсячыну. Плыла рэчка, і кожны ў ёй абмываўся са сваіх грахоў, ды пляваў у яе. А яна? — плыла ціха ды пакорна, цярплівa. Плыла, збіраючы ў сваё нутро ўсякі бруд.

Ізноў неяк Мальвіна сустрэлася са сваёю сяброўкаю. Але калі тая запыталася, што чуваць, Мальвіна вочы апусціла, бы воўк. Нялоўка ёй было, ды сорамна нечага.

Парай, Настачка, што рабіць? Гэтакі сорам, і хто б спадзяваўся па ёй. Такая ціхая, ды нават не ведае, з кім.

Сяброўка нічога не адказала. Абыякава паціснула плячыма і пайшла далей.

А рэчка жыцця плыла сваім карытам, абыякавая на хрэсьбіны Мальвінінай дачкі.

**Уладзіслаў Дваракоўскі**



## ВЯСНА

*На прасторах шырокіх вясна*
*Рагоча свавольным смехам,*
*Бухае парай зямля,*
*Гром адклікаецца рэхам.*

*Не ўстрымаць жыцця, што з акоў*
*Імчыцца, валіць наперад.*
*Як бой, дык бой!*
*Сарваць прашкоды, бар'еры!*

*А сонца ўзышло ласкавае*
*На клейкай пупышцы села,*
*Маліўся ў блакіце жаваранак*
*За ўраджай пасеваў.*

*Абатры спацелыя рукі,*
*Неспакойны чалавеча.*
*Хто сее радасць і кветкі,*
*Той жыць на зямлі будзе вечна.*

**Уладзімір Гайдук**

## ШТУЧНАЯ ЗОРКА

Хоць гавораць, што кожнаму з вас
Свеціць ясна высокая зорка,
Дык не верце, абманваюць вас,
Няма праўды у гэтым ніколькі.

Бо у атамны гэты наш век
Пойдзе ў свеце другая гаворка.
Мабыць, скажа калі чалавек:
Нарадзіўся пад штучнаю зоркай...

**Л. Танкевіч**

## Хачу пісаць добра



Сакрат Яновіч як другі «белавежац» прыняты ў рады Саюза польскіх пісьменнікаў. Гэты факт з'яўляецца найлепшым доказам таго, што наш літаратурны рух мацнее.

— *Пастаяннаму чытачу «Нівы» тваё прозвішча вядома. На яе старонках мы друкуем здаўна апавяданні, эцюды, быў змешчаны нават адзін верш. Але пры ўсім гэтым твой уваход у літаратуру адбыўся вельмі хутка. Зразумела, гаворачы гэтак, я маю на думцы іменна гэты кароткі час паміж выхадам «Загонаў» і прыняццем цябе ў рады Саюза польскіх пісьменнікаў. Ці гэтая раптоўная прафесіяналізацыя часам табе не перашкаджае?*

— Інакш кажучы, ці не пачало мне здавацца, што тое, што напішу, тое і будзе добрае?

— *Вось іменна. Ці не стаў ты глядзець на людзей з вышыні Парнасу?*

— Думаю, што не. На свет гляджу я па-ранейшаму. Але разам з гэтай, як ты назваў, прафесіяналізацыяй, паявілася не ўпэўненасць, а наадварот — няўпэўненасць, перапалох ад таго, каб не напісаць дрэннага, горш таго, што напісаў. Страх гэты бярэцца ад жадання пісаць толькі лепш. Тое, што рабіў дагэтуль, мела характар выпадковы. Цяпер аб выпадковасці нельга гаварыць. Хачу пісаць добра і абавязкова добра.

— *Гісторыя літаратуры гаворыць, што няўпэўненасць, рознага роду псіхічныя амплітуды характэрны амаль усім пісьменнікам. Ці гэта добра ці не, патрэбна для творчасці — гаварыць не будзем. Вывад тут проста такі, што прызнаючыся да стану бяссільнасці, ты нічога новага не адкрываеш. Але на няўпэўненасць ёсць спосаб... — Здаецца, ты стаў тварыць міф аб сабе?*

— Так, стараюся ствараць. I не пярэчу яго нарастанню. Але ці ўжо ён існуе? Можа парасткі... Калі і ёсць, у нічым істотным ён мне не памагае... Рацыю існавання міфу я бачу перш за ўсё ў папулярызацыі таго, што я раблю. Пішучы, я хачу аказаць акрэслены ўплыў на людзей. У прысьпяшэнні гэтага трэба дазваляць нарастанню міфу.

— *Ці ты не адчуваеш, што міф якраз знімае з цябе ў пэўнай ступені няўпэўненасць?*

— Не думаў над гэтым. У міфе я бачу магчымасць фармавання беларускага культурнага субстату, у цэментацыі беларусаў. I таму не варта перашкаджаць нарастанню міфаў у адносінах да іншых асоб, бо гэтыя міфы — як магнітнае поле — прыцягваюць маленькія часцінкі. Нам гэта, безумоўна, патрэбна.

— *Ну, а тое, што ў выказваннях аб «Загонах» Э. Рэдлінскі ці С. Раманчук ставяць цябе за Чэхавым, Бабелем, ці Хэмінгуэем, цябе гэта задавальняе?*

— Такія параўнанні казычуць. I прыемна казычуць. Я не супраць іх. Яны арганічна ўваходзяць у міф. Такія элементы прысьпяшаюць стварэнне міфу і робяць яго сур'ёзным.

— *А ты не адчуваеш у гэтых параўнаннях недаацэнкі сваёй творчасці? Не бачыш скрытай іроніі? Ці гэта не тое самае, што назваць кагосьці эпігонам?*

— Можа я блізка гляджу, але — прызнацца — так не адчуў. Бачу ў іх спрыяльны момант стварэння міфу, які патрэбны не толькі мне, але беларусам наогул. Ды зрэшты разлічваю на мяшчанскую ментальнасць чытача: параўнанне маёй творчасці да творчасці вышэй названых пісьменнікаў будуе рэспект да мяне, як аўтара.

— *Аб «Загонах» паявілася даволі многа выказванняў. Што ў гэтых ацэнках знаходзіш істотнага для сябе?*

— Я іх, зразумела, чытаў. Чытаюцца яны, як пахвальны гімн. I па-за гэтым нічога больш я не знайшоў.

— *А што ты хацеў прачытаць?*

— Пахвалу. Але пахвалу, якая ўзмацняла б, прысьпяшала, згушчала мой уплыў на асяроддзе, не чакаючы гадоў, а найхутчэй... Я спадзяваўся таго, што адзін пахваліць, другі зганіць. Паявяцца два, тры матэрыялы і будзе ўсё. Лічыўся з тым, што паявіцца крытыка негатыўная, а тут толькі пахвала. I што мне гэта дало?.. Нічога! Пахвала нічога не дасць, калі яна без аналізу. Крытыкі добрай, канструктыўнай у нас няма. А тое, што было напісана аб «Загонах», гэта нейкія імпрэсіі. Хваляць, і ўсё. Аўтару гэтага мала. Пахвалу трэба даказаць, а не толькі выказаць. Каб яны аб гэтым ведалі...

(Працяг на стар. 4)

## ПЯТРУК І ВЯПРУК

*Летнім часам раз у вёсцы*
*Смех пайшоў такі, што гук.*
*А прычынай — весялосці —*
*Быў вяпрук і наш Пятрук.*

*— Вось, — гаворыць бацька сыну, —*
*Ў нас работа — сенажаць,*
*А ты ж накармі жывіну*
*Замест лішне бушаваць.*

*— У сенцах бульба і бацвінне —*
*Кажа бацька Петруку.*
*— Малаком зальеш, ды ўкінеш*
*У карыта вепруку.*

*Пятруку гадоў мо дзесяць,*
*Ды не цяміў ён ніяк;*
*Кароў пасвяць ў полі, ў лесе*
*А свіней, вось, кормяць так...*

*Я не стану бульбу пэцкаць,*
*Думае сабе Пятрук.*
*На папас вазьму; здаецца,*
*Напасецца мой вяпрук.*

*Хоць тут хлопцы ўсе на конях,*
*Уздумалася Петруку,*
*Каб з папругаю ў далонях*
*Паімчаць на вепруку.*

*Толькі, як я буду ехаць? —*
*Грываў у свіней няма...*
*— Эх, я! — пацнуў ў лоб са смехам,*
*Вушы ж ёсць у вепрука.*

*Адчыніў ён загароду,*
*Вяпрук зразу шугануў.*
*Вось дык буду мець прыгоду!*
*Буду неграм на слану!*

*Вяпрук цямкае хмызіну,*
*Голад ўжо паспеў пазнаць.*
*А Пятрук залез на спіну,*
*Пачынае паганяць.*

*— Нужа, ты! Не стой, скаціна! —*
*Злосць напала Петрука.*
*Што табе тая хмызіна...*
*I папругай вепрука.*

*Тут ад болю нечакана*
*Так і ўскочыў той вяпрук.*
*Што ж, не звык вазіць ён пана,*
*Ды не знаў аб тым Пятрук.*



*А вяпрук хрумкае штосьці*
*I бяжыць, ілбом затрос,*
*Ці са страху, ці са злосці,*
*Раптам убіўся ён пад воз.*

*Не лічыў Пятрук, што справа*
*Такі возьме абарот.*
*Не паспеў ён злезці нават,*
*Ды раззявіў толькі рот.*

*А тут лобам трах у дышлю —*
*Зоркі сталі ў вачах.*
*Падхапіў такую шышку,*
*Што не ўстояў на нагах.*

*Слёзы самі пруцца ў вочы,*
*Гнеў раз'ярыў Петрука,*
*Захапіў калок, прыскочыў,*
*Дай дубасіць вепрука.*

*А жывіна гоп на ногі,*
*Абдраптала вакол воз,*
*Адышлася да дарогі,*
*Быццам чорт яе аднёс.*

*Ўсё ж Пятрук не стаў вазіцца,*
*Шнурком вепра абвязаў*
*I навокал паясніцы*
*Да сябе прымацаваў.*

*Яшчэ раз залез на спіну,*
*Пяткі ў шчэці устраміў, —*
*Усё ж, паганая скаціна,*
*Я цябе перахітрыў.*

*Бяжыць вяпрук і трасецца,*
*Аж зямля пад ім дрыжыць.*
*Пятрук гопае, кладзецца,*
*То сядзіць, то зноў ляжыць.*

*Бягуць дзеці, крыкі, рогат,*
*Тут парушыў вёску ўсю.*
*Праляцела, як трывога:*
*«Мчыць Пятрук на вепруку»!*

*Пятрук бачыць — кепска дужа, —*
*Усе смяюцца у распрог.*
*А вяпрук дамоў, дзе лужа*
*I ў балота з хлястам лёг.*

*Ляжыць, хрумкае, уздыхае...*
*Раз за разам — рох, ды — рох,*
*Што ж, яму бяда малая.*
*Ну! а Пецьку? — не дай бог.*

*«Неграм» стаў на палавіну,*
*Ды не так, як планаваў.*
*Хоць меў чорны лоб і спіну —*
*Ды ад гразі — кожны знаў.*

*I сказаў Пятрук няшчасны:*
*— Эх, дурніца! — чорт з табой!*
*Я ж хацеў цябе напасвіць,*
*А ты ўсё ж свіння — свіннёй.*

**Зося Стаськевіч**

## КСЯНДЗОЎСКАЯ ЯМКА



Уцяклі мы са школы на Ксяндзоўскую ямку. Тут глыбокая вада.

Антось Кандрацкі і Палчыхі Меця на бягу паскідалі адзенне і глыбока нырнулі.

— Скачы, чаго баішся!

— Ужо.

Я заплюшчыў вочы і нырнуў. Вада выпіхала наверх, але я хацеў вытрымаць як найдаўжэй. Выплыў, калі пачаў душыцца.

Антось і Меця пляскалі рукамі па вадзе. Адбіваліся. Аблілі мяне. Я ўцёк у плюшч, дзе плыцей.

Меця ўлазіў па шыю на глыбіню. Там дзесьці ляжыць на дне вялікі пляскаты камень. Меця нырнуў туды і зараз выскачыў дагары, выкідаючы рукі і б'ючы нагамі, каб адплысці ад таго месца.

— Два метры, можа больш, — сказаў Меця. — Глыбока!

Потым спрабаваў Антось. Нырнуў і згінуў пад вадою.

Доўга не выплываў.

Мы забаяліся аб яго.

— Яшчэ ўтопіцца.

— Ратуй яго! — крыкнуў я да Меця.

Антось усё не выплываў.

«Утапіўся»! — падумаў я.

Меця паплыў на ратунак. Я выскачыў з вады на бераг і ўглядаўся, ці не ідзе хто? Давай крычаць:

— Топіцца! Памажыце!!

Меця зноў нырнуў.

Прыбывала вады, гэта млын пачаў малоць.

Ні адзін, ні другі не выплывалі.

Урэшце Меця выплыў. Ён вылез на бераг і заплакаў. I я заплакаў.

**Эдвард Ярашэвіч**




М. О. Навакорніна. — Цэлы сшытак прысвяціла ты на пакуль што бяспечную для сябе і другіх гульню ў пісанне вершаў. Нікому іх больш не паказвай і даўжэйшы час не пішы. Трэба закончыць пачатковую школу, потым сярэднюю. Многа чытаць, вучыцца... I толькі тады паспрабуй. А пакуль што ніякіх паэтычных схільнасцей я не знайшоў, бо ты іх не праявіла.

(Працяг са стар. 3)

## ХАЧУ ПІСАЦЬ ДОБРА

*— Былі выказаны і заганы. Але ты аб гэтым — як бачу — не хочаш памятаць. Гаварылася выразна аб слабых месцах. На мой погляд, твае даўжэйшыя творы — «Таня», «Ён і іншыя» — няўданыя. Няма ў іх падтэксту, філасофска-мастацкай глыбіні, яны плыткія, ніякаватыя. Затое вельмі ўданымі, хоць не ўсе, лічу «малыя» творы. У гэтым жанры ты паказаў сябе з лепшага боку.*

— Беручыся за даўжэйшыя жанры, я верыў, што мне яны ўдадуцца. І надалей веру. Хоць вера мяняецца, бо аб маіх няўдачах гавораць таксама іншыя. Мне хочацца даць белетрыстыку чытачу, хочацца запоўніць недахоп жанраў. Вершы маюць малы ўплыў. На вёсцы верш ідзе ў форме дэкламацыі або аўтарскай сустрэчы. Падставай чытальніцтва якраз на мой погляд, з'яўляецца белетрыстыка, — аповесць. І тое, што гаварыў у імпрэсіях, захацеў сказаць у шырэйшых жанрах. Але займаюся гэтым насілу. Гэта я адчуваю. І таму толькі схільны згадзіцца з няўдачамі... Хаця мне гэта баліць. Вельмі хочацца даць добрую белетрыстыку. Пісаць аповесці буду, але асноўныя сілы захаваю на кароткі жанр, імпрэсіі.

*— У сувязі з гэтым, ці не думаў ты, што аповесць «Жыццё і ўчынкі Андрэя», за якую ты ўзяўся, можа ў цябе не выйсці?*

— Гэтага іменна баюся. Аповесці пісаць не ўмею. Прымушаю сябе. Кіруюся той рацыяй, што трэба даць усе жанры. Няхай яны будуць і слабыя, але няхай будуць. Можа на такім, чым-небудзь запоўненым, месцы нешта вырасце? Наш літаратурны рух страшна аднабаковы. Адны паэты. А яны ж не створаць пачуцця вартасці беларускага слова ў шырэйшым разліве. Яны абмяжоўваюць гэту вартасць да асяроддзя элітарнага, бо гэта вынікае з самой прыроды чытання паэзіі.

*— Значыць, ты свядома ідзеш на растрату сваёй творчай энергіі? Праз сілу пішаш аповесці, п'есы, песні... Бачу ў гэтым небяспечную ігру для самога аўтара. А ці наогул ёсць у цябе для такой шырокай творчасці дастатковы багаж вопыту?*

— Я не люблю гэтага слова, бо яно мне прыпамінае тое, ад чаго мы распачалі размову — няўпэўненасць. У мяне няма вопыту, які хацелася б мець. Вынікае гэта, між іншым, з майго ўзросту.

*— Значыць, ты са мною ўсё ж такі згодны, што хуткая прафесіяналізацыя можа скрывіць чалавека ў тым сэнсе, што не дазваляе здабываць жыццёвага вопыту з-за катэгарычнага «мушу пісаць!» Але аб чым пісаць, калі няма вопыту? Аб чым пяваць, калі няма чаго сказаць людзям?*

— Так, гэта істотныя разважанні. Я аб іх думаў. Як выйсці з лабірынту пытанняў, якія ставіць жыццё? А можа ў тым заключаецца ўся прывабнасць творчасці?

*Размову правёў*

**Я. Чыквін**

### БЕЛАРУСКАЯ КНІЖКА НА ГАЙНАЎШЧЫНЕ

Павятовы аддзел Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Гайнаўцы з размахам арганізаваў папулярызацыю беларускай кніжкі ў павеце. У многіх мясцовасцях пабывалі аўтары з літаратурнага аб'яднання «Белавежа» — паэт Алесь Барскі і празаік Сакрат Яновіч. Удзельнічалі яны таксама ў народным свяце, якое адбылося ў нядзелю 17 мая ва ўрочышчы Свінарыі на ўскраіне Белавежскай пушчы.

16 мая Алесь Барскі наведаў Махнатае і вёску Чаромху, у якой меў сустрэчу з моладдзю, а ўвечары — з дарослымі. У той жа дзень Сакрат Яновіч пабываў у вёсцы Мора і ў мястэчку Чаромха, дзе сустрэўся з вучнямі мясцовай школы, а ўвечары, ў фабрычным клубе, з яго наведвальнікамі. Абодва аўтары падпісалі многа сваіх кніжак: «Жнівень слоў» і «Загоны». Назаўтра падобныя сустрэчы адбыліся ў вясковых клубах у Карыціскаx і Старабеpазове. Увагі заслугоўвае тое, што людзі на гэтых сустрэчах праявілі добрае веданне нашай беластоцкай беларускай літаратуры.

Усе гэтыя сустрэчы з'яўляюцца доказам добрай дзейнасці гайнаўскага аддзела БГКТ, яго энергічнага інструктара Віктара Буры.

(ся)



*Паход на могілкі савецкіх салдат.*



*Дзмітры Макараў са сваёю жонкай падчас спаткання з мясцовым актывам.*

## МІЛЕЙЧЫЦКІ ФЭСТЫН

Аддзел Беларускага таварыства ў Мілейчыцах супольна з мясцовымі палітычнымі і грамадскімі арганізацыямі 10-га мая падрыхтаваў фэстын, прысвечаны 25-ай гадавіне перамогі над фашысцкай Германіяй. У Мілейчыцах сабралася шмат людзей з навакольных вёсак. ГС — задбаў аб тым, каб былі адкрыты кіёскі з харчовымі і некаторымі іншымі артыкуламі. «Рух», «Дом кніжкі» і аддзел БГКТ арганізавалі кірмаш кніжкі.

Галоўнай часткай урачыстасці быў паход на могілкі савецкіх салдат, загінуўшых падчас вызвалення Сямяціцкага павета. Там адбыўся мітынг. Адкрыў яго інструктар ГП БГКТ на Сямяціцкі павет Міхась Вішанка. З дакладам выступіў сакратар КП ПАРП (ён член праўлення аддзела БГКТ) Іван Плешук. Тут жа адбыўся «Апэль палеглых». Пасля дэлегацыі гурткоў БГКТ, гурткоў ЗМВ, прадпрыемстваў і арганізацый злажылі вянкі на могілках.

Наступным пунктам праграмы ўрачыстасці былі мастацкія выступленні самадзейнікаў з сельскагаспадарчага тэхнікума ў Чартаеве і з Мілейчыц. Быў арганізаваны таксама самаходна-матацыклавы райд (больш 200 машын) па шляхах баёў у павеце. Закончыўся ён якраз перад урачыстасцю на могілках.

На гэты фэстын быў запрошаны былы камандзір партызанскага атрада, грамадзянін СССР, палкоўнік запасу Дзмітры Макараў са сваёй жонкай, якога ўсе прысутныя горача віталі. Прынялі таксама ўдзел сакратар КП ПАРП Вацлаў Майсюшка, сакратар ПК ЗСЛь Сільвестар Харубін, сакратар павятовай рады нарадовай, Маўрыцы Паўтарак, старшыня павятовага камітэта ФАН Раман Небарак і ветэраны II сусветнай вайны. У гэтым дню адбылося таксама спатканне мясцовага актыву з таварышам Дзмітрам Макаравым.

**Міхась Вішанка**

*Фота Сяргей Крэйза*



У БЕЛАСТОЦКІМ ТЭАТРЫ.

*«Апетыт на чарэшні» — гэта раманс Агнешкі Асецкай, пастаўлены на беластоцкай сцэне ў маі.*

*На здымку Барбара Лукашэўская і Генрык Длужынскі — пара найбольш працавітых акцёраў Беластоцкага тэатра, якая са словам і песняй часта выступае ў розных клубах гарадоў і вёсак.*

*(вл)*

## ЛІТОЎСКАЕ ТАВАРЫСТВА

15 мая 1970 г. у павятовым мястэчку Аўгустове адбылося спатканне кіраўніцтва Галоўнага праўлення БГКТ з кіраўніцтвам Галоўнага праўлення Літоўскага грамадска-культурнага таварыства. Гэта быў свайго роду абмен вопытам у працы дзвюх братніх арганізацый.

Дзейнасць Літоўскага таварыства ў асноўным абымае Сэйненскі павет і частку Сувальскага. Апрача таго, гурткі ЛГКТ існуюць: у Беластоку, Варшаве, Лодзі, Слупску, Кашаліне і іншых гарадах Польшчы. Найбольш літоўцаў знаходзіцца ў раёне асады Пунск. Там ёсць літоўскі дом культуры, літоўскі агульнаадукацыйны ліцэй і даволі добры літоўскі мастацкі калектыў песні і танца.

ЛГКТ кожны год над возерам у Бурбішках арганізоўвае цэнтральны злёт мастацкіх калектываў. Там адбываецца конкурс на найлепшы самадзейны калектыў. А літоўскія аматарскія калектывы ў асноўным харавыя, і таму ў Бурбішках урачыстаць з'яўляецца свайго роду святам літоўскай песні. У Бурбішках збіраецца заўсёды па некалькі тысяч чалавек з навакольных вёсак. Дагаварыліся мы на гэтым спатканні з прадстаўнікамі з літоўскага Галоўнага праўлення, што ў бягучым годзе на свята літоўскай песні выедзе наш гарадоцкі хор і дэлегацыя Галоўнага праўлення. У адным з фэстынаў, арганізаваных нашымі аддзеламі, прымуць удзел літоўскія сябры.

У 20 школах у Сэйненскім і Сувальскім паветах вывучае літоўскую мову 739 дзяцей. ГП ЛГКТ штогод арганізоўвае таксама злёты школьных мастацкіх калектываў з літоўскім рэпертуарам. Кожны год у Літоўскую рэспубліку выязджае на месячны курс літоўскай мовы 14 настаўнікаў.

Цікавай формай працы з'яўляюцца таксама штоквартальныя спатканні прэзідыума ГП са сваім актывам. Ужо два гады арганізоўваюцца там спатканні былых салдат-літоўцаў з усіх франтоў II сусветнай вайны. Праходзяць яны вельмі цікава.

З чытальніцтвам літоўскай кніжкі там даволі добра. Існуе 5 грамадскіх бібліятэк, у якіх налічваецца 6125 кніжак, а чытачоў 1369. Так, як у нас беларускіх, так і там літоўскіх кніжак адчуваецца вялікі недахоп. А найгорш ужо са сцэнічным словам, з рэпертуарам для мастацкіх калектываў. У нас гэты недахоп у пэўнай ступені дапамагаюць ліквідаваць нашыя літаратары, якія выраслі разам з нашай беларускай арганізацыяй. Літоўскае таварыства не мае ані літаратараў, ані свайго выдавецтва, і таму з гэтай справай там значна цяжэй.

*Міхась Хмялеўскі*



Пачатак на стар. 1

## АДЗІН ДЗЕНЬ У КЛЕЙНІКАХ

Загадзь — цяпер спалучана ў адну вёску, ляжыць на ніжэйшым канцы 3-кіламетровай вёскі з яе 250 гаспадарствамі ў самых толькі Клейніках, не лічачы калёній, якія завуцца Слівова, Тынкоўшчына, Бурыцкае, Падпніска.

Старшыня Сяргей Каліноўскі кажа «то вёска разваёвая» і прыпамінаюць мне гэтыя словы дзіцячыя планы з клейніцкай школы, што ў 2000 годзе вёска Клейнікі стане горадам Клейнікі.

Так разважаем, а тут з запахам свежага паветра ўбягае дзяўчына, энергіяй аж кіпіць. Пачынаецца новая размова пра малады гурток ЗМВ у Клейніках, клуб, пра рамонт клуба. Уважліва слухаю, стараюся ўлавіць характар размовы. А дзяўчына да мяне: «Абмалюйце ў «Ніве» нашага солтыса»... Аж з'ежваюся ўнутрана. Ужо прыняла іхняга солтыса, як найбольш пазітыўнага і заслужанага героя вёскі, а тут гэтае «абмалюйце». Але Марыя Карчэўская прадаўжае свае пажаданні ў адрас «Нівы». «...Абмалюйце нашага солтыса, бо ён такі спалэчны чалавек. Усё робіць, усюды дойдзе, ён стражак, член партыі, ужо другую кадэнцыю солтысам. То найлепшы солтыс у грамадзе. Яму было 25 год, як выбралі першы раз солтысам. А як ён спявае!»

Солтыс: «Як быў у нас спявачы гурток калісьці, то і «Ніва» пісала пра нас».

Старшыня ГРН: «Тут спяваюць вельмі добра. Тут многа людзей таленавітых марнуецца. Вёскі нашы павінны грымець песняй. А як гаворым пра солтыса, то скажу вам, у нашай грамадзе ёсць два добрыя солтысы — жанчыны: у Сапаве — Люба Анішчук, у Гукавічах — Люба Нікалаюк.

Старшыня далей: «Хваліць моладзь ёсць за што, але і паганіць трэба, ламаюць крэслы ў клубе. Цяпер наша ОРМО там закрунулася і сказалі мы: — гэта культурнае месца, тут трэба ціха і ветліва».

Марыя Асташэўская, сакратар ГРН: «Мы як найхутчэй павінны адрамантаваць клуб, а ГС з Нарвы сказаў, што тады дасць новыя крэслы і столікі».

Старшыня: «Марыся (да Карчэўскай), як мы адрамантуем клуб і памалюем падлогу, то мо не будзеце там рабіць танцаў, бо зноў панішчыце».

Марыя Карчэўская: «Што вы, пшэводнічонцы! Наша моладзь хоча бавіцца, то старых трэба з клуба зліквідаваць, бо прыходзяць, накураць і ляскаюць цэлы вечар у карты. А нашы хлопцы з гуртка (ЗМВ) падняліся і на чале з Міхалам Гаўрылюком адрамантавалі трохі крэслы і зрабілі сходы ў клуб. Наш гурток ЗМВ увойдзе ў клуб. Вы, пшэводнічонцы, нічога не кажыце, ад нас з ЗМВ 8 асоб пайшло ў партыю».

На гарызонце з'яўляецца Аляксей Касцючук з гармонікам. Знаёмы, аказваецца. Калісь жыў і іграў у Чыжах. Пісала нават калісь аб чыжоўскім мастацкім гуртку. У Клейніках А. Касцючук не вядзе гуртка, а вядзе ОРМО.

Клуб «Рольніка», заложаны тут ГС-ам у Нарве, не спадабаецца нікому. Пуста, шэра, няўтульна, як зямля, чорная падлога, і хлопцы мясцовыя часта-густа сядаюць брыдка, некультурна, з нагамі на крэслы.

На вячэрняй сустрэчы з дарослымі казалі людзі: «Напішыце пра клуб, што ўжо 4 гады ГС у Нарве ўсё абяцае і нічога не дае».

Хто іншы: «Напішыце, што ГС прывёз нам радыё, адразу было папсаванае, самі яны пра гэта ведалі і такое стаіць ужо цэлыя гады. Вось там, у кутку».

Хто іншы: «Прыдалося б нам кіно якое, хоць бы Беларускае таварыства прыехала калі з фільмам. Дагэтуль ніхто да нас не прыязджае і няма ў нас кіно».

*

Клейніцкая вуліца асветленая электрычнымі лямпачкамі. Па мокрай зямлі скачуць цені дрэў.

Пакідаю Клейнікі ўсё ж не ў поўным задавальненні. Цудоўная вёска, з цудоўнымі людзьмі, з вачыма, як неба вясеннае, але яшчэ Клейнікі да канца не прабудзіліся. Не разгарнулі бурлівай грамадска-культурнай працы, няма тут вялікіх бурлівых амбіцый. Жыццё цячэ крыху так, як сабе хоча. І хочацца пажадаць гэтай незабыўнай вёсцы з яе людзьмі, каб як найхутчэй апанаваў іх неспакой.

**Вера Леўчук**

# ШТО ЧУВАЦЬ?

### ПРА АЎТАМАБІЛІ

У выніку апошняга лясавання ашчадных кніжак ПКО, прэміяваных аўтамабілямі, якое нядаўна адбылося ў Варшаве, жыхарам нашага, Беластоцкага, ваяводства прыпала аж 14 легкавых аўтамабіляў, пераважна замежнай прадукцыі.

### ПРА БЕЛАВЕЖСКУЮ ПУШЧУ

Беларускія і польскія вучоныя заключылі пагадненне аб напісанні навукова-папулярнай кніжкі пра Белавежу. Створана рэдакцыйная калегія з 10-ці чалавек, па 5 ад Беларусі і Польшчы. Польскім калектывам кіруе Януш Богдан Фалінскі, а беларускім — кандыдат біялагічных навук Сцяпан Качаноўскі.

### ПРА ШТУЧНЫЯ ЎГНАЕННІ

Згодна з пастановай Прэзідыума ВРН у Беластоку, *сяляне нашага ваяводства да канца чэрвеня г.г. АБАВЯЗАНЫ выкупіць трэцюю рату штучных угнаенняў*, на якую прыпадае 20% агульнага прыдзелу. Справа вельмі важная, бо ў мінулым годзе на звыш 11% менш купілі сяляне штучных угнаенняў, чымсьці планавалі ўлады.

### ПРА АЛКАГОЛІКАЎ

Ваяводскія ўлады стараюцца атрымаць дазвол на пабудову ў Беластоцкім ваяводстве спецыяльнай бальніцы для лячэння закаранелых, горкіх п'яніц. На гэтую мэту гаспадары ваяводства выдзелілі з бюджэтнай надбаўкі за 1969 год аж 3 мільёны 637 тысяч зл. З гаспадарчага і маральнага пункту гледжання гэта вельмі важнае для нас мерапрыемства, бо закаранелы алкагалізм становіцца ўжо грамадскай праблемай.

### ПРА ДАДАТКОВЫЯ ГРОШЫ

Калі ўспомнім мы пра бюджэтную надбаўку, дык варта ведаць, што за 1969 год састаўляе яна 104 мільёны 141 тысячу зл. і вымоўна сведчыць аб разважлівай і ашчаднай гаспадарцы нашых ваяводскіх улад.

Гэтыя грошы не прапалі. Радныя Ваяводскай рады на сваёй апошняй сесіі рашылі:

— 18 мільёнаў 531 тысячу 291 зл. адвесці на новыя капіталаўкладанні;

— 10 мільёнаў 361 тысячу 694 зл. прызнаць на патрэбы сельскай гаспадаркі, у асноўным на меліярацыю і на падтрымку дзейнасці прадпрыемства механізацыі цяжкай сялянскай працы;

— 7 мільёнаў атрымала камунальная і жыллёвая гаспадарка.

Апрача гэтага з бюджэтнай надбаўкі атрымалі (каб пакрыць свой дэфіцыт): беластоцкі тэатр — амаль 270 тысяч зл., дзіцячы тэатр лялек — звыш 200 тысяч зл., ваяводскае праўленне кіно — каля 600 тысяч зл.

Амаль 12 мільёнаў зл. радныя адвялі для шасці паветаў, у ліку якіх апынуліся: Беластоцкі павет, які атрымаў амаль паўтара мільёна зл., і Сямяціцкі павет, які атрымаў звыш 5 мільёнаў зл.

### ПРА ГРАМАДСКІЯ ЧЫНЫ

У мінулым годзе жыхары Беластоцкага ваяводства столькі папрацавалі грамадскім чынам, што грашовая вартасць гэтай працы склала суму ў звыш 178 мільёнаў зл. Найбольш грамадскай працы засталося на дарогах Беласточчыны.

### ПРА ЗАТРАТЫ

Доўгая, шматснежная зіма не спрыяла азіміне. Амаль адна трэцяя асенніх пасеваў прапала ад снегавой плесні. Прыйшлося заараць блізка 100 тысяч гектараў засеянага поля. Гэта, зразумела, вельмі адмоўна адаб'ецца на сёлетнім ураджаі. Трэба ашчаджаць хлеб.

*Падслухаў М. Нурэцкі*

СКАНДАЛ У СТРАШАВЕ

## ЛЕКАР—БУЯН

Гарадоцкаму лекару, Ю. Геніюшу, вельмі свярбяць рукі і ён не ведае, што з імі рабіць. 20 мая г.г., будучы ў Страшаве, ён «загадаў» шаферу з Беластока М. Г. везці сябе на прагулку. Калі шафёр адмовіў, наш лекар пабіў яго. Мала таго, яшчэ і пазваніў у гарадоцкую міліцыю, каб тая зацікавілася... шафёрам. І калі беластоцкая машына (службовая!) з'явілася ў Гарадку, сустрэў яе міліцыянер, які з ходу і хацеў заняцца ні ў чым не вінаватым шафёрам.

Сцэна амаль гумарыстычная. Была б яна смешнай, калі б шафёр не быў матэрыяльнай істотай і яму не балела пабітая (лекарам) галава.

А ў сваю чаргу, ці сапраўды ўсё дазваляецца рабіць разбуяніўшамуся гарадоцкаму лекару? (рл)



## ПАВЕДАМЛЕННЕ

**аб справе гітлераўскага лагера для ваеннапалонных у Харошчы Беластоцкага павета.**

Акружная камісія па даследванню гітлераўскіх злачынстваў у Беластоку звяртаецца з просьбай дапамагчы ўстанавіць імёны, прозвішчы і адрасы былых палонных гітлераўскага лагера для савецкіх ваеннапалонных у Харошчы, Беластоцкага павета (як тых, хто жыве, так і памерлых або забітых).

Адначасова просім усіх, хто нешта ведае аб злачынствах, якія былі зроблены гітлераўцамі на савецкіх палонных у гэтым лагеры, паведаміць нам пісьмова або тэлефанічна.

Камісія праводзіць у гэтай справе следства, у якім імкнецца ўстанавіць па магчымасці ўсе акалічнасці стварэння гэтага лагера, адносіны там да ваеннапалонных; справу расстрэлу палонных нямецкай камендатурай лагера ў недалёкім Навасёлкаўскім лесе.

Інфармацыі і матэрыялы просім дасылаць на адрас:
**Okręgowa Komisja Badania zbrodni hitlerowskich w Białymstoku, ul. Skłodowskiej Curie nr 1, pokój 59, tel. 20441 wewn. 31.**

## ЧАРОМХА

Ёсць дзве Чаромхі: мястэчка і вёска, некалькі кіламетраў адна ад другой. Чарамшане местачковыя, вядома, больш ганарыстыя. Самое ж мястэчка вельмі сімпатычнае, цэлае ў зелені; аднаго, чаго не хапае — гэта чаромхавых дрэў. Будучы на месцы мясцовай грамадскай рады, я выдаў бы загад садзіць чаромхавы дрэвы, бо што гэта Чаромха без чаромхі — на панадворках, у гародчыках, ля тратуара. Чаромха цвіла б у чарамшыне.

*

У чаромхаўскім прывакзальным буфеце прадалі мне някепскі абед. Праўда, катлета аказалася не зусім свежай работы, але яе хутка вымянялі на лепшую, без лішніх слоў. І менавіта той факт несварлівасці я запамятаў як плюс: у іншых буфетах сварацца і прабуюць пераконваць, што катлета не смярдзіць...

*

Сімпатычна выглядае таксама клуб чыгуначнікаў. Калісьці, кажуць, быў у ім балаган і свісты. Цяпер няма, моладзь бушуе па-маладому, але без хуліганства. У клубным кіёску найбольш купляюць аранжады, значна больш, чым газет і часопісаў. Але, пакажыце мне такі клуб, дзе ёсць наадварот... У клубе гэтым удаюцца культурна-асветныя вечары нават і ў тыя суботы, калі ў недалёкім клубе пажарнікаў грае забава і танцуюць у рытм «Расцвіталі яблыні і грушы»...

*

Цікава яшчэ і тое, што ў мясцовай школе купляюць беларускія кніжкі нават і тыя вучні, якія не вывучаюць беларускую мову, польскія дзеці. Кіраўнік мясцовай школы заўважыў, што не рэалізуецца праграма навучання беларускай гісторыі, якая абавязвае ўжо ад 1 лютага 1967 года, а матэрыялы да яе апублікаваны ў вялізным «Беларускім календары на 1969 год». Яе выкананне палепшыла б настрой зацікаўлення беларусчынай.

*

Забудова Чаромхі надта хаатычная. Тут будаваўся хто і дзе мог. Здаецца, што гэтак адбываецца і надалей. Няма плана забудовы, а калі і ёсць такі план, дык яго не відаць. Чаромха падобная да Гайнаўкі, з той аднак розніцай, што Гайнаўка шмат большая, ды забудоўваецца ўжо з выразна відавочным планам, небалаганна забудоўваецца. (ся)

## ШКОЛЕ Ў НАВАБЕРАЗОВЕ 30 ГОД

Заўсёды з вялікай цікавасцю чытаю я сухія хронікі школ. Можа, таму так цікаўлюся, што ўсё яшчэ рэдка дзе вядуць настаўнікі такія хронікі. З'яўляюцца яны вельмі важнай часткай гісторыі данай мясцовасці. Калі што не падабаецца мне ў хроніках, дык тое, што пішуць іх, пераважна, з думкай аб начальстве, яму пішуць. Нядобра. Трапляе шмат інфармацый неістотных.

Пераглядаючы хроніку школы ў Наваберазове, можна даведацца, што сёлета спаўняецца трыццаць год яе існавання. Ад заканчэння вайны працавала ў гэтай школе сорак настаўнікаў: дваццаць год ужо працуе Мікіта Сапежка, 11 год — Кацярына Ярашэвіч, 10 гадоў працуе Іван Ільяшук. Дзесятым кіраўніком школы з'яўляецца зараз Анатоль Швед. У Наваберазоўскай школе працуе магістр фізікі Уладзімір Сяроцкі, выпускнік Познанскага універсітэта. Завочна канчае Кракаўскі універсітэт Жэня Буйноўская. Усе яны наваберазаўчане, усе яны хадзілі некалі ў гэту школу, у гэты будынак.

Зараз школа налічвае 157 вучняў. Умовы для навучання цяжкія — усяго тры памяшканні, прыдатныя да вядзення ўрокаў. Заняткі адбываюцца таксама ў дзвюх гаспадарскіх хатах, спецыяльна нанятых школай. Некаторыя вучні ходзяць у школу з мясцовасцей, што знаходзяцца ад Наваберазова ў шасці кіламетрах (вёска Барок). Выпускнікоў восьмага класа налічваецца 67 асоб, сёлета будзе іх яшчэ каля дваццаці. Кожны чацвёрты выпускнік вучыцца далей у сельскагаспадарчай школе. З іх ліку ўсяго шэсць чалавек засталося ў роднай вёсцы (жыццёвая сітуацыя бацькоў прымусіла). Рэшта вучыцца: у прафесіянальных школах, у тэхнікумах (14 асоб), у беларускіх ліцэях 4 асобы (1 — у бельскім). На працягу апошніх трох гадоў усе дзеці школьнага ўзросту ходзяць у школу, бацькі разумеюць важнасць навучання. У наваберазоўскай школе навучанне дзяцей пачынаецца на беларускай мове, што мае добры ўплыў на засвойванне матэрыялу. Дзіця ў першым класе адчувае сябе не так адчужаным, не аглушанае яно іншамоўнай тэрміналогіяй. Гэта добры бок, які заўсёды падкрэсліваюць у сваіх кніжках выдатныя педагогі.

Старшынёй бацькоўскага камітэта з'яўляецца Пятро Шварц, сімпатычны гаспадар з суседняга Шастакова. Амбіцыяй (цяперашняй) бацькоўскага камітэта лічыцца добраўпарадкаванне школьнага пляца, на якім каменні-валуны, пераўтварэнне яго ў сапраўдную пляцоўку, роўную і шырокую, ды зялёна-квяцістую. Капітальны рамонт школы пачнецца не раней, чым у 1972 годзе (задоўга чакаць). Насоўваецца прапанова, каб пры нагодзе гэтага рамонту, капітальнага рамонту, вынайсці такую прычыну, каб можна было падняць дах і дабудаваць адзін паверх. Новая школа няхутка будзе, драўляная яшчэ добрая.

Школа супрацоўнічае з Вроцлаўскім інстытутам матэрыяльнай культуры, які і вывучае беластоцкую беларушчыну. Прыклад зацікаўлення кіраўніцтва школы не толькі вузкапедагагічнымі справамі.

З ліку апошніх цікавейшых мерапрыемстваў трэба ўпамянуць конкурс на найлепшыя насценгазеты, малюнкі і лозунгі ў сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння У. І. Леніна. Пераможцы конкурсу: Галя Іванюк з VI кл і Ліда Галашэвіч, таксама з VI кл. (ся)

## СТУДЭНЦКАЕ СВЯТА Ў БЕЛАСТОКУ

Жакамі зваліся першыя студэнты першага ў Польшчы універсітэта — Ягелонскага ў Кракаве. Адгэтуль і выводзіцца традыцыя жакаўскіх (студэнцкіх) гульняў, калі студэнцкая брацьбярэ ў свае рукі панаванне ў горадзе.

Беластоцкае студэнцкае свята завецца Паганаліямі (ад слова «пагоня», якая знаходзіцца ў гербе горада Беластока і якая была гербам Вялікага Княства Літоўскага).

Наш фотарэпарцёр з неадступным фотаапаратам удзельнічаў у студэнцкіх гульнях і забавах 16—17 мая на вуліцах горада Беластока.

У Паганаліях прынялі ўдзел 3 беластоцкія вышэйшыя школы: філіял Варшаўскага універсітэта — Вышэйшая настаўніцкая школа, Медыцынская акадэмія і Вышэйшая інжынерская школа.

А вось наш фотарэпартаж з вясёлых беластоцкіх Паганаліяў.



Хто, як хто, а беластоцкія жакі (увага! увага!) выбраліся на месяц... веласіпедам. Шчаслівай дарогі!


Глядзіце ўважліва, думайце доўга, выбірайце асцярожна. Кандыдую (і буду) на найпрыгажэйшую жачку беластоцкіх Паганаліяў 1970 года.


На Паганаліях пануе мода, якую хто сабе выбярэ. Беластоцкія жакі выбіралі сабе касцюмы, якія значна больш спадабаліся б нашым бабкам, чым «голае міні».


Шматвяковая традыцыя кажа, што студэнт заўсёды галодны. А тут конкурс абжор, хоць адна добрая аказія, каб дасыта наесціся.


Ахвотных паглядзець на студэнцкія гульні ніколі не замала. (вл)

Фота Цаф — Сянько



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

